# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (273) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 6 МАЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР.

## СЁННЯ І ЗАЎТРА

### БЕЛАРУСКАГА ЧЫТАЛЬНІЦТВА

Чытальніцтва беларускай літаратуры ў вясковых бібліятэках Беласточчыны мае свае пачаткі ў першыя гады існавання прадмета роднай мовы ў школах — 1952/54 г. Невялікую колькасць беларускіх кніжак зарэгістравана ўжо ў 1955 г. Іх пакупка адбывалася хуткімі тэмпамі. У 1958 г. налічвалася 3.140 экз. і 3.896 яе пазычанняў. А ўжо ў апошнім квартале 1961 г. зарэгістравана ва ўсіх 57-мі бібліятэках 7.881 экземпляраў, 3.222 чытачы і 12.693 пазычанні.

З увагі на малыя традыцыі нашага школьніцтва да 1952 г. — запатрабаванні старэйшых пакаленняў на родную кніжку ніколі не мелі істотнага значэння. Хутчэй за ўсё абмяжоўваліся да спарадычных выпадкаў. І так, адзінай базай беларускага чытальніцтва з'яўляецца моладзь. Дакладней кажучы, тая моладзь, якая хаця 2—3 гады вучылася ў школе роднай мовы.

Сярэдні лік пазычанняў на 1 чытача за 1961 г. у Беластоцкім ваяводстве выражаны паказчыкам 14,00 і з'яўляецца найвышэйшым у краіне. Адносны паказчык у раздзеле беларускага кніжнага фонду прадстаўлены велічынёю 3,92 і датычыць найбольш «расчытаных» паветаў — Бельскага, Гайнаўскага і Беластоцкага.

Насоўваецца пытанне: як выглядае забеспячэнне чытача літаратурай, якая яго цікавіць? Лік кніжак на польскай мове прыпадаючых на 1 чытача за 1961 г. у тых паветах выражаны лічбай 5,3. Беларуская літаратура прадстаўлена паказчыкам 3,2, а руская — 4,3.

Сваёй папулярнасцю беларуская кніжка за 1961 г. у нямногім уступае польскай, а двойчы перавышае рускую. Лік пазычанняў, які прыпадае на 1 польскую кніжку, складае 1,93; беларускую — 1,53 і рускую — 0,84. Ва неўлічаным тут нават Сакольскім павеце паказчык пазычанняў беларускай літаратуры дасягае 1,01.

Прыведзеныя даныя і параўнанні сведчаць аб стабільнасці зацікаўлення родным друкаваным словам.

Параўноўваючы прапорцыі ліку чытачоў беларускай літаратуры ў адносінах да польскай, трэба браць пад увагу ў абодвух выпадках чытачоў ва ўзросце да 20-ці год жыцця, аб чым гаварылася на пачатку. Прымаючы сярэдні лік чытачоў такой катэгорыі польскай літаратуры, якой прыпадае на 1 вясковую бібліятэку, за 100% дык адносны лік чытачоў па беларускай літаратуры складае 16,96%. У паасобных паветах выглядае наступна: Бельск — 32,58%, Гайнаўка — 14,00; Беласток — 4,31%. (даныя за 1961 год).

(Працяг на стар. 3)

ЯЗЭП ПУШЧА

## КУРЛЫ, КУРЛЫ

Ў маленстве чула я
Чароўны голас твой;
Лавіла жураўля
Увосень і вясной.

«Курлы, курлы, курлы,» —
Спяваў мой журавель,
А сокалы - арлы
Шукалі ўсё скалы.

І не знайшлі арлы
У нас скалы - гары.
«Курлы, курлы, курлы», —
Я чула на зары.

Лагодны спеў далін
Каціўся да крыніц;
Сачыўся сок з калін
Каб сэрцы напаіць.

Радзімая зямля,
У шуме гонкіх хвой
Ізноў пачула я
Чароўны голас твой!



Украінка з Бань Мазурскіх.
Фота: Ю. Рыбінскі

## Пастулаты выбаршчыкаў будуць рэалізаваны

Гайнаўскі павет — гэта адзін з найбольш сельскагаспадарчых паветаў Беласточчыны. Нічога тады дзіўнага, што большая частка патрабаванняў людзей у перыяд мінулай выбарчай кампаніі адносілася да меліярацыі, электрыфікацыі вёскі, да рамонту дарог, пабудовы школ і пунктаў аховы здароўя. Было ўнесена звыш 200 пастулатаў і прапаноў.

Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы, каб прыступіць да рэалізацыі ўнесеных пастулатаў, паклікала нараду кіраўнікоў, падпарадкаваных яму аддзелаў, а таксама старшынь камісій ПРН. На нарадзе аналізавана кожны пастулат, беручы пад увагу яго рэальнасць і мэтазгоднасць рэалізацыі. Зроблена таксама падзел пастулатаў і вызначана, хто і калі павінен заняцца іх рэалізацыяй.

(Працяг на стар. 4)

## ЖЫВЕМ МЫ У АДНЫМ ВАЯВОДСТВЕ

На адным з апошніх пасяджэнняў Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, пры абмяркоўцы плана дзейнасці на другі квартал бягучага года было пастаноўлена навязаць супрацоўніцтва з Павятовым аддзелам Украінскага грамадска - культурнага таварыства ў Банях Мазурскіх на Галдапшчыне.

— Жывем жа мы ў адным ваяводстве, — гаварылі на сходзе члены праўлення, — і амаль нічога не ведаем аб жыцці, працы і дзейнасці як адных, так і другіх.

Нашыя таварыствы маюць перад сабой аднолькавыя задачы. І несумненна, пры навязанні бліжэйшага супрацоўніцтва, мы маглі б шмат скарыстаць, пераймаючы адны ў другіх вопыт дзейнасці.

Справа навязання кантакту з Павятовым праўленнем УГКТ у Банях Мазурскіх была даручана мне.

Бані Мазурскія сустрэлі мяне цёплымі праменнямі веснавога сонца і ўзбуранай рачулкай Галдапай, якая, выступіўшы з берагоў, возерам заліла сенажаці, што цягнуцца ад вясковых гарадоў аж пад самы лес, далёка за вёскай.

На вуліцы ў такі час даволі мнагалюдна. Жыхары Бань Мазурскіх украінскага паходжання ўсё ж такі выдзяляюцца ад іншых. Мужчыны смуглявыя і хоць шчуплай пабудовы, але высокія, стройныя з чорнымі як вугаль вачыма. На вуліцы чуваць пераважна украінскую мову. І гэта нічога дзіўнага, зважыўшы, што пераважная большасць жыхароў Бань — гэта украінцы.

Грамадзяніна Сцяпана Кантралевіча, старшыню Павятовага праўлення УГКТ, на жаль я не застаў. Ён выехаў у Вэнгажэва. Прыняў мяне намеснік старшыні — Мікола Блонскі. Гэта малады, энергічны чалавек. Ён з'яўляецца старшынёй мясцовай ГС.

— З беларусамі, — гаворыць Мікола Блонскі, — мне, тут на Галдапшчыне, даводзілася сустракацца неаднойчы. А вось аб дзейнасці вашага Беларускага таварыства, ды і наогул аб жыцці і працы беларусаў на Беласточчыне я амаль нічога не ведаю. Таксама і другія украінцы пражываючыя ў межах нашага ваяводства.

Мікола Блонскі, а таксама і сакратар Павятовага праўлення УГКТ — Іван Калач (з якім я потым пазнаёміўся), вельмі радасна ўспрынялі прапанову адносна супрацоўніцтва.

— Украінцы любяць і часта спяваюць беларускія песні, — кажа Іван Калач. — У рэпертуары нашага хору яны часта выконваюцца. Несумненна, што і беларусам падабаюцца нашыя песні. Дык чаму ж нам не сустракацца, чаму не паслухаць адны другіх? Жывем жа мы не за гарамі

— Ды не толькі песні, — дадае Мікола Блонскі. —

(Працяг на стар. 3)

## «СЁННЯШНЯЯ ГРОДЗЕНШЧЫНА»



Фрагмент гродзенскай фотавыстаўкі, якая экспануецца ў Беластоцкім музеі, як вынік супрацоўніцтва паміж беластоцкімі і гродзенскімі журналістамі.

Фота: — Г Рагазінскі

(Працяг са стар. 1)

## Сёння і заўтра беларускага чытальніцтва

Аналіз, менавіта, беларускага чытальніцтва не даў бы больш аб'ектыўнага ўражання, калі б мы забыліся тут на важную ролю бібліятэк у забеспячэнні патрэб чытачоў, якія ў сваёй асноўнай масе выводзяцца з вучнёўскага асяроддзя. Агульны іх кніжны фонд перавышае ў два з лішнім разоў грамадскі фонд. На жаль, адсутнасць адносных зборных статыстык не дазваляе заняцца гэтым пытаннем.

Хто цікавіцца беларускай кніжкай? Зразумела, што тая асоба, якая дастаткова ведае гэту мову. А затым, найбольш «расчытаны» элемент. Словы «расчытаны», «зацікаўлены» абазначаюць таксама цікавасць да адзінага часопіса «Ніва» і «адзіных» беларускіх календароў. І хаця гэта цікавасць каштуе некаторыя сумы, але ўсё ж яна акрэслівае ў даволі прыблізных маштабах перспектывы разбудовы чытачоўскай базы нашата чытальніцтва. (Актуальна «Нівы» разыходзіцца каля 4.500 экз. і ў сярэднім столькі ж календароў). Выдавецтвы гэтыя маюць ужо амаль сямігадовую традыцыю.

* ✲ *

Асабліва многа застаецца зрабіць для зацікаўлення беларускай кніжкай у Беластоцкім і Гайнаўскім паветах, якім тэмп накідае Бельскі павет.

Улічыўшы факт добрай яе папулярнасці даходзім да вываду, што далейшае пашырэнне чытачоўскай базы на цяперашнім этапе развіцця ў пераважнай большасці залежыць ад тэмпаў росту пакупак беларускай літаратуры.

САКРАТ ЯНОВІЧ

## «БЕЛАСТОЦКІ ГАДАВІК»

**У кнігарнях Беластока з'явіўся другі том «Беластоцкага гадавіка», які выдаецца Беластоцкім музеем, Комплекснай яцвяскай экспедыцыяй і Беластоцкім аддзелам Польскага гістарычнага таварыства. Гэтае незвычайна багатае выданне прыносіць нам рад прац, тэматычна звязаных з гісторыяй Падляшша.**

**Цяжка ў гэтай кароткай заметцы гаварыць аб усіх працах. Дык звярну ўвагу толькі на больш значныя. Беларускага чытача мусіць найбольш зацікавіць праца М. Леха, дзе абмяркоўваецца ўдзел Войск Вялікага Княжаства Літоўскага ў барацьбе супраць сялянскіх хваляванняў на Беларусі ў XVIII ст. Я. Глінка піша аб абаронным замку ў Беластоку на пераломе XVI і XVII ст. ст. Адзначу таксама публікацыю С. Калябінскага, які паказвае нам пачаткі рабочага руху ў беластоцкай прамысловай акрузе ў 1870—1887 гг. З цікавасцю чытаецца аб кантактах Драгічына над Бугам з Ноўгарадам Вялікім. Аб іх піша Крыстына Мусяновіч. Наогул, «Беластоцкі гадавік» заключае ў сабе вельмі разнастайную тэматыку. Тут і пытанні археалогіі, і гандлю, і антрапалогіі... Кожная з дзялянак навукі мае аказію штосьці сказаць аб мінулым нашага рэгіёну.**

**Гэтае выданне, несумненна, надзвычай каштоўнае. Яго выключна руплівае афармленне, шмат дакументальных фатаграфій, дыяграм і рэпрадукцый — гэта знешнія прыкметы высокай вартасці «Беластоцкага гадавіка». А ўжо непасрэднае азнаямленне з яго зместам дазволіць пераканацца аб багацці прадстаўленых тут ведаў, якія праліваюць свет на цікавае мінулае Беласточчыны.**

**М. Канапацкі**

## З КОНКУРСУ НАРОДНАЙ ВЫШЫЎКІ



Дыван П. Сохар з Беластока

Фота: Г. Рагазінскі

## БЕЛЫЯ НЕГРЫ

(Працяг са стар. 2)

патрэбныя квіты, трэба было патраціць 3 дні, чакаючы на ляснічага. Нават месяцамі не адбіраліся працы і зацягвалася выплата грошай.

Безрабоціца, галеча і голад павялічвалі цяжкія жыллёвыя ўмовы. Сялянскія хаты, крытыя звычайна саломаю, старыя і цесныя патрабавалі рамонту або перабудовы. У антыгігіенічных, вільготных, цёмных, цесных, халодных і затхлых зямлянках жыла большая частка беззямельных лясных рабочых.

«Ідуць гады, а яны жывуць са сваімі сем'ямі ў гэтых затхлых ужо зямлянках. Дах працякае, у сценах дзіркі, на падлозе вада, вільгаць і задушлівыя пахі ў хаце. У гэтым ёсць нешта жахлівае, калі ўбачыш гэтыя норы, горшыя ад хлявоў, у якіх жывуць людзі па 10—12 чалавек у адной зямлянцы, маючай каля 5 м даўжыні і 4 м шырыні. Калі ідзе дождж і працякае вада, людзі бегаюць з кутка ў куток, каб не прамокнуць. Побач зямлянкі сцяна, за якою стаяць коні, якімі возяць дрэва, або худая карова, адзіная карміліца дзяцей. Проста нельга гэтага апісаць. Гэта трэба ўбачыць», — пісаў «Работнік».

Зямлянкі знаходзіліся ў раёне Буд, Тапіла, Чарлёнкі, Гайнаўкі, Нязнанага Бору, Новага Гданска, Пашуцкіх Буд, Плясева, Аленгорца. Было іх каля 150. Нягледзячы на тое, што зямлянкі былі ў страшэнным выглядзе, Дырэкцыя не толькі не дапамагла ў рамонце, але забараніла пад пагрозай праводзіць яго. Хацела прымусіць пакінуць лес асабліва тую частку рабочых, якая адкрыта гаварыла аб існуючых умовах працы і платы, і прымусіць іншых да паслухмянасці. Здараліся нават выпадкі выдалення рабочых з уласных хат, напрыклад, у Новым Гданску і Будах. Між іншым рабочага Сіткевіча ў Будах выдалілі з памяшкання не звярнуўшы страт паміма таго, што ён рэгулярна аплачваў для Дырэкцыі за арэнду пляца.

У Чарлёнцы 5-асабовая сям'я жыла ў яме, якая раней была бульбасховішчам, а каровы ляснічага Копця займалі выгадны і асобны памяшкальны будынак.

Частыя былі выпадкі нахабных адносін надляснічых, ляснічых і леснікоў да рабочых. Надляснічы ў Чоле — Гуслаўскі без ніякай прычыны біў пугаю працуючых у лесе рабочых, разганяў чакаючых на зарплату перад надляснiцтвам. Неаднойчы рабочыя па адным супрацьстаўляліся выбрыкам адміністрацыі, але за кожным разам былі сурова ўціхаміраны пры дапамозе паліцыі, судоў і адміністрацыйных улад.

Пушчанскія людзі жылі «...як дзікуны, якія не ведаюць цывілізацыі». «Здалёк ад чыгункі, ад людскіх пасёлкаў, ад цэнтраў культуры, ад школ, доктара, ці аптэкі жывуць лясныя рабочыя», — пісала пэпээсаўская газета. Сярод іх панавала непісьменнасць. Зацікаўленасць да кнігі ці газеты лічылася падазронай і не толькі з боку паліцыі, але і з боку надляснічых і ляснічых. Надляснічы ў Звярынцу-Война папярэджваў рабочага перад непрыемнасцямі ў выпадку, калі не спаліць сваёй бібліятэкі мастацкай літаратуры.

У перыяд крызісу працэс агранічвання і ліквідацыі элементарных правоў і дэмакратычных свабод яскрава быў наглядныімі на гэтай тэрыторыі.

Трапна акрэсліў «Работнік» у 1932 годзе што, калі хто-небудзь наведае тэрыторыю Белавежскай пушчы, ён убачыць пекла чалавечага жыцця, пекла белых пушчанскіх неграў.

## ЖЫВЕМ У АДНЫМ ВАЯВОДСТВЕ

(Працяг са стар. 1)

Ці ж не цікава было б пагутарыць актывістам нашых таварыстваў і падзяліцца вопытам у сваёй дзейнасці. Такі абмен вопытам можна было б пашырыць і ў гаспадарчай галіне. Большасць украінцаў Галдапшчыны — гэта земляробы. Некаторыя з іх у апошні час вярнуліся на сваю бацькаўшчыну ў Люблінскім і Жэшаўскім ваяводствах. Але пераважная большасць засталася тут назаўсёды. Яны моцна ўраслі ў Галдапскую глебу і чуюцца тут сапраўднымі гаспадарамі. А трэба сказаць, што нашыя украінцы бываюць добрымі гаспадарамі. Паколькі мне вядома, дык асноўная большасць беларусаў — гэта таксама земляробы з дзеда прадзеда. Дык ізноў, чаму ж нам не паглядзець на працу адны ў другіх, чаму ж не пераняць карыснае?

У заключэнні нашай гутаркі мы пастанавілі, што ў першую чаргу група нашых самадзейнікаў і актыву Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку наведае украінцаў у Банях Мазурскіх. Адбудзецца гэта ў маі або чэрвені. А пасля прыедуць да нас украінцы. Несумненна, што такая непасрэдная сувязь і супрацоўніцтва выйдзе нам на карысць.

* ✲ *

Украінскае таварыства на Галдапшчыне мае немалыя дасягненні ў развіцці культурнай дзейнасці. Пры Павятовым праўленні ў Банях Мазурскіх існуе 23-асабовы мужчынскі хор. Ёсць і жаночая група хору.

Пры украінскай пачатковай школе ў Банях існуе гурток мандалiністаў.

Украінскія самадзейнікі, так сказаць, абслугоўваюць усялякія гадавіны і ўрачыстасці не толькі ў Банях Мазурскіх, але і ў павеце.

Рух мастацкай самадзейнасці нядрэнна развіваецца і ў гуртках таварыства. Вельмі актыўныя драмгурткі ў Лісах і Врублях.

Найбольш аднак урачыста украінцы з Бань Мазурскіх адзначаюць гадавіны нараджэння і смерці Тараса Шаўчэнкі. Менавіта такая ўрачыстасць, прысвечаная 101 гадавіне з дня смерці Тараса Шаўчэнкі, адбылася 25 сакавіка ў Банях. Абшырная зала кіно не змагла памясціць прысутных. Украінцы шануюць памяць аб сваім вялікім песняры.

В. БАРШЧЭЎСКІ

---

твар, такі жывы хвіліну таму, стаў застыўшым і непрыветлівым.

— Я хацеў бы, мадам, замовіць вячэру на дзве асобы, на дзевяць гадзін.

— Калі ласка! — згадзілася гаспадыня. — Вячэру падрыхтаваць у асобным кабінеце?

— Так! А цяпер я прасіў бы вас прыслаць мне ў пакой пляшку бардо.

Генрых палажыў на стойку грошы.

— Рэшты не трэба, — сказаў ён нядбайна і, узяўшы прэйскурант, пачаў яго глядзець.

— Лютц сказаў, што гэты барон вельмі багаты! — пачуў ён, як сказала да дзяўчыны гаспадыня.

— Бо ўспеў награбіць, — злосна адказала тая.

— Трымай язык, Моніка!

— Ён стаіць, як цяля, і нічога не разумее.

— Занясі яму бардо, — загадала мадам.

Генрых, хаваючы ўсмешку, палажыў на стол прэйскурант і пайшоў да сябе.

Неўзабаве Моніка прынесла бардо. Паставіўшы пляшку на стале, яна моўчкі накіравалася да дзвярэй.

— Адну хвілінку, мадэмуазэль!

Моніка спынілася ля самых дзвярэй і чакала.

— Вы размаўляеце па-нямецку? — спытаў Генрых.

— Размаўляю, але вельмі рэдка, бо не люблю ані мовы, ані... — дзяўчына змоўкла.

40

— ...ані саміх немцаў? — закончыў за яе Генрых. Моніка маўчала.

— А вы адважная! І ўсё ж я не раю гаварыць такіх рэчаў нямецкім афіцэрам.

— Кожны можа мець свой густ. Мне, напрыклад, больш падабаецца руская мова!

— Я прыбыў з усходняга фронта і меў нагоду яе чуць. І магу вас запэўніць, што рускія жанчыны не гавораць нямецкім афіцэрам такіх рэчаў, як вы.

— Яны маўчаць?

— Не, яны страляюць! — адказаў па-французку Генрых.

Вочы Монікі шырока адчыніліся. Нейкую хвіліну яна збянтэжана ўзіралася ў Генрыха, потым паварушыла губамі, быццам хацела нешта сказаць, але ўвайшоў дзяншчык, і дзяўчына пашла.

Роўна ў дзевяць Генрых быў у кабінеце Лютца. Той яшчэ працаваў.

— Гер гаўптман! Няўжо столькі працы? Дык ужо дзевяць.

— Я чакаў вас і, каб не сядзець дарма, сёе-тое рыхтаваў на заўтра, — вытлумачыў Лютц, закрываючы папкі з паперамі. — А як вы ўладзіліся, барон?

— Нядрэнна. Ужо пазнаёміўся з гаспадыняй і яе дачкою.

41

— І Моніка нагаварыла вам прыкрых рэчаў?

— Крыху было, але мне здаецца, што мы з ёю дагаворымся.

— Вось як! — шчыра здзівіўся Лютц. — Ну, калі вам пашчасліўіцца наладзіць сувязі з Монікай, вам будуць зайздросціць усе афіцэры і будуць лічыць вас вялікім дыпламатам.

Неўзабаве яны сядзелі ў зацішным кабінеце і вячэралі.

— Дык працы будзе шмат, кажаце? — спытаў Генрых, наліваючы чаркі.

— Бачыце, пасля нашага паражэння пад Масквой французы паднялі галовы. З'явіліся так званыя макі.

— Я спадзяваўся, што адпачну пасля ўсходняга фронта, а тут, як кажуць рускія, трапіў з вогнішча ды ў полымя.

Гаўптман пачаў дакладна расказваць пра нядаўнюю аперацыю супроць партызан.

А тым часам, пакуль Гольдрынг і Лютц вячэралі, Моніка імчала веласіпедам у невялічкую вёску Пантэмафрэ, дзе стаяла электрастанцыя, што дастаўляла электраэнергію цэлай аколіцы.

— Мне трэба бачыць Францсуа, — звярнулася яна да знаёмага слесара.

(Працяг на стар. 4)

42

## КУР'ЁЗЫ

### СУСВЕТНЫ РЭКОРД КАЛЕПТВА

Гэты своеасаблівы рэкорд належыць амерыканскаму іграку - прафесіяналу ў хакей з шайбай Эдзі Шое. За 13 год спартыўнай дзейнасці яму 14 разоў ламалі нос, 5 разоў — скіміцу, на яго целе — 987 рубцоў. У гэтага «рэкардсмена» выбіты ўсе зубы.

### ТЭЛЕФОННЫ МАРАФОН

Студэнты універсітэта ў Таронта выйшлі пераможцамі ў тэлефонным марафоне. Па ўмовах спаборніцтва кожны ўдзельнік павінен няспынна гаварыць па тэлефоне не менш адной гадзіны, пакуль яго зменіць другі. Каманда універсітэта здолела пратрымацца на працягу сямі сутак.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

Паважаная Рэдакцыя! Прашу, калі ласка, змясціць у «Ніве» песню «Чорнае мора маё», якую я чула па радыё і якая мне вельмі спадабалася.

Твая сталая чытачка Яніна Звярынская
Слабада, Сакольскі павет.

## Чорнае мора маё

(З кінафільма «Матрос з «Каметы»)
Словы М. Матусоўскага. Музыка О. Фельцман



Тот, кто рожден был у моря,
Тот полюбил навсегда,
Белые мачты на рейде,
В дымке морской города

Свет маяка над волною,
Южных ночей забытье,
Самое синее в мире
Черное море мое.

Море в далекие годы
Пело мне песни, как мать,
Море меня научило
Грозные бури встречать.

Дорог мне кубрик матросский.
Скромное наше жилье,
Самое синее в мире
Черное море мое.

Стонет волна штормовая,
В дальние дали маня,
Так не ревнуй, дорогая,
К Черному морю меня.

Пусть нелегка эта доля,
Мне не прожить без нее
Самое синее в мире
Черное море мое.






Без слоў

### У КРАМЕ

— Звярніце ўвагу на гэту ручку, — паказвае прадаўшчык і пачынае яе хваліць на ўсе лады. — Яе можна кідаць у агонь, у ваду, можна ёю забіваць цвікі...

— А скажыце, калі ласка, — спыняе прадаўшчыка адзін з пакупнікаў, — ці ёю можна пісаць?

**Прыслаў Янка Філіпюк**

### САМАХВАЛЫ

Сабраліся аднойчы два самахвалы. Адзін кажа:

— У мяне быў конь, што па сто вёрст у гадзіну рабіў.

Другі кажа:

— А ў мяне быў конь, што яму за ўсю штодзённую ежу служыў толькі адзін колас.

— О, гэта дык ужо няпраўда, — сказаў першы.

— Вось, які ты, — адказаў другі. — Я табе павырыў пра сто конскіх вёрст у гадзіну, а ты мне пра аднаго коласа не верыш?

**Прыслаў Уладзімір Барташэвіч**

### ДАГАДЛІВЫ ГУЛЬТАЙ

Маці ўгаварвала свайго сына, каб заўсёды рана ўставаў, бо хто рана ўстае, той шчаслівы. Аднойчы раніцай, калі сын смачна спаў, маці стала перад ім і пачала гаварыць:

— Ах, сынку, устань і пабач, як прыгожа ўзыходзіць сонца. Устань і будзеш шчаслівы. Сын твайго дзядзькі ўставаў рана дык знайшоў грошы.

— Знайшоў, бо хто раней яго ўстаў, то згубіў іх, — сказаў гультай і зноў заснуў.

**Прыслала Валя Аляксеюк**

### У САМАЛЁЦЕ

Ляцяць самалётам два «філосафы». Пралятаюць над вёскай, адзін кажа: «Каб тут кінуў 100 тон пшаніцы, вось былі б сяляне задаволены». Пралятаюць над горадам, другі кажа: «Каб тут кінуў 100 скрынак гарэлкі, вось былі б рабочыя задаволены». А пілот абярнуўся ды кажа: «Каб я вас абоіх выкінуў, то былі б усе задаволены».

**Прыслаў**
**Мікалай Вілюк**

**Малюнак Херлуфа Бідструпа**



**— Зноў тычку ў раздзявальні пакінуў?**

### ...ЛУШНАЯ ЗАЎВАГА

Да старшыні ГС бухгалтар прынёс акты на спісанне каўбасы, цукру, масла і селядцоў. У гэты момант у кабінет заглянуў вартаўнік.

— Не дзьмухайце дужа на пячатку, — не ўстрымаўся ён, калі старшыня намерваўся завярыць дакумент.

— Чаму?

— Гарэлкай пахнуць будзе.

**Прыслаў**
**Сяргей Малашкевіч**



**Аратар.**

Як самому зрабіць табурэтку, або стаць шаўцом, можна па кніжцы. Толькі паэтам няма практычнага дапаможніка. А моладзь у нас паэзіяй шмат цікавіцца. Падрастаючыя грамадзяне індывідуальным спосабам вяжуць рыфмы, як бабулі панчохі: памалу, церпяліва і са ўздыхам.

Вершы — справа карысная. Напрыклад, у каханні вершык памагае, бы парашок ад галаўнога болю. Калі вы ахвяруеце любімай дзяўчыне рыфмы аб месяцы, салаўі, раненым сэрцы, яна ўпадзе перад вамі, бы кошка на сонцапёку.

Зразумела, пачынаючаму паэту лягчэй зрабіць табурэтку, чым улажыць верш, як гэта робіць, напрыклад, Віктар Швед. Ён нават лаецца рыфмамі.

Быў я сведкам, як Швед купляў на рынку курыцу. Падышоў ён да сумнай курынай гандляркі, узважыў у руках курыцу, раздзьмухаў, дзе трэба, пух і сказаў:

Што сумуеш, грамадзяначка, смуцішся?
Уступіш крышку — курачка ўлятучыцца.

Калі паэт аддаляўся з курыцай, я думаў аб усемагутнай сіле паэзіі.

Галоўнае для пачынаючых паэтаў — развіццё фантазіі і назіральнасці. Напрыклад, выходзіце вы на світанні і бачыце, як трактарыст запускае трактар. Хутчэй хапайце карандаш і шпарце:

Ці свет, ці світае,
Ці на зоры займае?

# ПАЭТАМ

А мой міленькі,
Крапатлівенькі,
Трактара сядлае.

Тут вам усё, што трэба. І традыцыі, і с... насць, і мастацкі вобраз. Калі замест трактарыста ўбачыце дзяўчыну, якая ідзе па ваду, тады пішыце так:

Усе людзі яшчэ спалі.
Зазвінела сонца рана,
Зазвінелі усе далі,
Як па ваду йшла Тацяна.

Поспех абяспечаны. Дзяўчына не ўяўляла, што ідучы па ваду, выклікала на вас такое ўражанне, ад якога сонца ўстала і далі зазвінелі.

Калі ў хаце не хапае месца для напісаных вершаў, пачынайце высылаць іх у рэдакцыю. Калі вершы не друкуюцца — не сумуйце. Пасылайце далей. Не толькі талент прабівае дарогу да славы — нахабства таксама. Хай потым крытыкі разбіраюцца, дзе канчаецца талент і пачынаецца нахабства.

Бамбардуючы рэдакцыю вершамі, не забывайце аб небяспецы. Выведзены з цярплівасці рэдактар можа застрэліць вас, бы Дантэс Пушкіна. Ён вас не пашкадуе. Ён ведае, што месца загінуўшага зоймуць дзесяткі новых паэтаў, і паток вершаў не спыніцца.

Для пачынаючых паэтаў вельмі карысна заключыць дагавор з пісьманосцам, тады высланыя ў рэдакцыю вершы не будуць вяртацца да аўтара.

*Дзядзька Лявон*